## ЗЬМЕСТ

*Стар.*

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

| Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 14-ліпень-1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ |
|---|---|---|



# ПОЎНАСЬЦЮ ВЫКАНАЦЬ ПЛЯНЫ ЎБОРАЧНАЙ!

**„Партыйныя арганізацыі павінны ўлічваць тое, што ўборачная кампанія і асеньняя сяўба 1931 г. зьяўляюцца рашаючым вучасткам у выкананьні ўсяго народна-гаспадарчага пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі“**

**(З пастановы ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б**

## ЗАМАЦАВАЦЬ ПОСЬПЕХІ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ ПОЎНАЙ І СВАЯЧАСОВАЙ УБОРКАЙ УРАДЖАЮ

Веснавая сяўба гэтага году прынесла новыя аграмадныя посьпехі ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Пастаўленыя студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б задачы ў галіне калектывізацыі сельскай гаспадаркі на вясну гэтага году, ня толькі выкананы, але і перавыкананы.

Процант калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР на 10 ліпеня складае звыш 41 проц. Асобныя раёны БССР (Койданаўскі 92%, Лепельскі 83 пр., Хоцімскі—75,8 проц. і г. д.) ужо падышлі да завяршэньня ў асноўным суцэльнай калектывізацыі. „Гэта сьведчыць аб тым, што калектывізацыя БССР можа быць у асноўным завершана ў 1932 г. На выкананьне гэтай задачы партыйныя і савецкія арганізацыі павінны мабілізаваць усю сваю ўвагу з такім разьлікам, каб да веснавой сяўбы 1932 году было-б калектывізавана ня менш 75 % бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР“ (з пастановы ліпеньскага пленуму ЦККП(б)Б).

Дасягнутыя посьпехі ў веснавую сяўбу гэтага году сапраўды вялізарныя. У параўнаньні з мінулым годам мы значна пашырылі пасеўную плошчу. Заданьне партыі—засеяць ня менш 240.800 *га* ільну—перавыканана. У калгасах засеяна тэхнічных культур 128.304 *га*, у тым ліку аднаго толькі лёну засеяна 108.166 *га*. На адну сям'ю ў калгасах прыходзіцца засеву яравых у паўтары разы, а тэх-

нічных у два разы больш, чым на сям'ю аднаасобнай гаспадаркі.

У другую бальшавіцкую вясну машына-трактарныя станцыі на справе даказалі сваю вядучую ролю ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі. МТС перавыканалі намечаныя пляны сяўбы і арганізавалі новы прылїў у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аднаасобнікаў.

Гэтыя посьпехі дасягнуты дзякуючы правільнаму і няўхільнаму правядзеньню генэральнай лініі партыі, дзякуючы няпрымірымай барацьбе з правымі і „левымі“ апартуністамі.

Аднак у правядзеньні веснавой сяўбы мы мелі ў асобных раёнах недахопы і прарывы. У шэрагу раёнаў мясцовыя арганізацыі ня здолелі стаць на чале калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў; ня здолелі стаць на чале калгасьнікаў, беднякоў і серадпякоў—аднаасобнікаў у барацьбе з кулаком, не вялі сапраўднай барацьбы з правымі агентамі кулака—правымі і „левымі“ апартуністымі. І таму ў гэтых раёнах вельмі нізкі процант калектывізацыі і сяўба праведзена дрэнна. Было шмат выпадкаў, калі апартуністычныя элемэнты на выгаду кулаку скарачалі пасеўную плошчу.

Такія раёны, яе Бабруйскі—калектывізаваны на 18 проц., Капаткевіцкі—18 проц., Рэчыцкі—19 проц. і інш.—да гэтага часу яшчэ ганебна плятуцца ў глыбокім тылу калектывізацыі. У гэтых раёнах зусім слаба праводзіцца работа па арганізацыі прыліву ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Гэтыя раёны безадкладна павінны перабудаваць сваю работу так, каб забясьпечыць посьпех калектывізацыі.

Улічыўшы ўсе недахопы веснавой сяўбы мы павінны па-бальшавіцку правесьці ўборку ўраджаю. Трэба памятаць, што ўборка ўраджаю—важнейшая гаспадарча-палітычная кампанія, якая (уборка) цесна зьвязана з выкананьнем хлебазагатоўчых плянаў. Пастановы чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б) і ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б аб уборачнай кампаніі павінны быць поўнасьцю праведзены ў жыцьцё.

„Партыйныя арганізацыі павінны ўлічваць тое, што ўборачная кампанія і асеньняя сяўба 1931 году зьўляецца рашаючым вучасткам у выкананьні ўсяго народна-гаспадарчага пляну трэцяга рашаюсага году пяцігодкі“ (з пастановы пленуму ЦК КП(б)Б). Таму на ўборку ўраджаю і асеньнюю сяўбу павінны быць кінуты ўсе сілы, уся энэргія.

Рашуча ламаць супраціўленьне кулака, які імкнецца сарваць пляны ўборкі і асеньняй сяўбы і гэтым самым пашкодзіць нашым посьпехам у калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Бязьлітасна змагацца з агентамі кулака—правымі і „левымі“ апартуністымі.

Пляны ўборачнай кампаніі павінны быць выкананы поўнасьцю.



**Ударная брыгада жанчын за ўборкай сена ў калгасе „Бальшавік“ (Лагойскі раён).**

# Задачы саўгасаў у асеньнюю сяўбу

Асеньняя пасеўкампанія і падрыхтоўка да яе будзе праходзіць у час напруджаных работ па ўборцы зернявых і іншых культур, чаму, каб належным парадкам падрыхтоўваць працу да сяўбы, патрэбна пільная ўвага з боку саўгаса. Асабліва напружана прыходзіцца сачыць за работай у саўгасах уноў арганізаваных і з значнымі ўноў асваяемымі плошчамі.

Па лініі агракультурнага парадку саўгасы павінны правесьці цэлы шэраг мерапрыемств, якія павінны легчы ў аснову выкананьня заданьняў дырэктыўных органаў. К такім мерапрыемствам па лініі агракультурных у час асеньняй пасеўкампаніі адносяцца: своечасовая апрацоўка глебы, якая значна адбіваецца на падвышэньні ўраджайнасьці, а адгэтуль і на падвышэньні прадукцыйнасьці працы.

Саўгасы павінны паклапаціцца са своечасовай уборкай азімых, каб магчыма было падрыхтаваць зерне—абмалаціць, абсартаваць і калі гатунковае насеньне, то патрэбна будзе забясьпечыць і калгасы. Усё гэта патрэбна зрабіць своечасова, каб не зацягваць гэтым сяўбу. Засеў павінен быць зроблен у тэрмін, які найбольш спрыяе росту жыта, і вытварацца павінен радковымі сеўнікамі і толькі ў крайнім выпадку карыстаюцца раскіднымі сеўнікамі.

Завоз штучных угнаеньняў неабходна зрабіць своечасова. Для гэтай мэты трэсты даўно ўжо павінны даць разнарадкі заводам на завоз у кожны саўгас неабходнай колькасьці ўгнаеньняў. Некаторыя ўгнаеньні патрэбна высяваць за некаторы час да высеву насеньня, а за гэтым патрэбна пільна сачыць і мець на ўвазе.

Патрэбна весьці самую рашучую барацьбу за беражлівыя адносіны да машын, да рабочае жывёлы. Патрэбна сыстэматычна імкнуцца да эканоміі гаручага, зьніжэньня прастояў і халастых прабегаў трактароў, за поўную іх нагрузку.

Аднэй з галоўнейшых задач саўгасаў у час асеньняга севу павінна стаяць задача як уtаненьня прадукцыі, так і палепшаньня якасьці працы. У гэтых адносінах патрэбна ўлічыць вопыт мінулага году і асабліва вопыт правядзеньня мінулай веснавой пасеўкампаніі. Было-б зусім недапушчальным паўтараць недахопы мінулага году і веснавой сяўбы.

Перавод на зьдзельшчыну ўсіх работ павінен быць канчаткова праведзен у саўгасах. Патрэбна правесьці нормы выпрацоўкі, на вопыце вясны, больш дэталёва ўдасканаліць іх, бяручы за прыклады нормы выпрацоўкі лепшых ударных брыгад і паасобных ударнікаў. Зьнішчыць абязьлічку як на машынах, так і на жывёле. Вылучыць спэцыяльную брыгаду па ворыву, севу, малацьбе і інш.

У час асеньняй сяўбы саўгасы павінны на падставе прыкладаў пабудаваньня сацыялістычных мэтодаў працы, на падставе пераваг буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, быць у авангардзе дапаможнікаў па больш шпаркаму аб'яднаньню аднаасобных сялянскіх гаспадарак у колгасы. Неабходна самая цесная сувязь саўгасаў з калгасамі і дапамога ім машынамі, насеньнем і інш. Для абгаварэньня плянаў і норм выпрацоўкі прыцягваць ня толькі калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, але і аднаасобнікаў—беднякоў і серадлякоў.

Работа па правядзеньню асеньняй пасеўкампаніі будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і супраціўленьня з боку кулацтва. Саўгасы павінны весьці барацьбу са спробамі

ПАСЬПЯХОВАЕ СКАНЧЭНЬНЕ ЎБОРКІ ЎРАДЖАЮ І АСЕНЬНЯЙ СЯЎБЫ ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ПАБУДОВУ ФУНДАМАНТУ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЭКАНОМІКІ Ў НАШАЙ КРАІНЕ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ



Піянэры Менску ў час працы па праполцы гароду ў калгасе „Бальшавік“ (Лагойскі раён).

і мэтадамі кулацкай агітацыі і ўсімі мерамі весьці растлумачальную работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі аб неабходнасьці ўзмацненьня наступу на кулацтва да поўнай яго ліквідацыі, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі.

Вялікая адказнасьць за правядзеньне асеньняй пасеўкампаніі ў належны тэрмін ляжыць на грамадзкіх і партыйных арганізацыях саўгасаў. Рабачкомы, вытворчыя камісіі, бюро ячэек партыі і камсамола павінны быць прыведзены ў баявую гатоўнасьць. Яны павінны дапамагаць адміністрацыі саўгасаў у правядзеньні ўсіх мерапрыемств, яны павінны мабілізаваць масы на сацспаборніцтва, уцягнуць іх у ўдарныя брыгады, становячыся ў першых шэрагах іх.

Толькі такім шляхам, мабілізаваўшы ўсю грамадзкасьць, шырока арганізаваўшы сацспаборніцтва і ўдарніцтва саўгасы змогуць справіцца з усімі задачамі, якія перад імі стаяць.

**М. Б.**

# Сваячасовым правядзеньнем уборкі ўраджаю забясьпечым новы магутны прыліў у калгасы

# Калгасы рыхтуйцеся да збожжазагатовак

К канцу веснавой сяўбы больш 40 працантаў пасеўнай плошчы БССР ахоплена калгасамі. Удзельная вага калгаснага сэктару ў параўнаньні з мінулым годам вырасла і займае значнае месца.

Таму кампанія збожжазагатовак у калгасах у гэтым годзе набывае асабліва важнае гаспадарча-палітычнае значэньне. Важнасьць і адказнасьць кампаніі збожжазагатовак выразна была акрэсьлена ў прамове т. Якаўлева на чэрвенскім пленуме ЦК УсеКП(б), у якой ён сказаў, што „*ураджай апрадзяляецца ня тым, што вырасла на палёх калгасаў, а той колькасьцю прадукцыі, якая фактычна ўбрана і паступіла ў распараджэньне Пралетарскай дзяржавы*“.

Вызначаны плян збожжазагатовак па калгасам БССР у гэтым годзе невялікі, аднак самацёку і казённаму „благодушыю“, апартуністычным разважаньням аб тым, што раз плян невялікі хлеб, сам пойдзе і што плян без асобнай напружанасьці будзе выкананы, павінна быць абвешана рашучая барацьба. Неабходна ўлічыць урокі мінулага году, калі ў асобных раёнах былі надзеі на самацёк, слабая мабілізацыя ўсёй грамадзкасьці вакол пытаньня збожжазагатовак, адсутнасьць масавай работы сярод калгасьнікаў за здачу таварных лішкаў. Трэба таксама ўлічыць меўшыя месца перагібы ў пытаньні збожжазагатовак, калі калгасьнікам вызначалі пайкі замест разьмеркаваньня ўраджаю па працаднёх, што прывяло да скрыўленьняў клясавай лініі і прарываў на паасобных вучастках гэтай работы.

Кампанія збожжазагатовак у мінулым годзе праходзіла ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, кулак імкнуўся сарваць плян збожжазагатовак, разьвіваючы агітацыю сярод калгасьнікаў супроць здачы таварных лішкаў калгасу. Невыкананьне пляну па загатоўках асобнымі раёнамі сьведчыць аб тым, што апартуністы сваёй работай дапамагалі кулаку ў яго падрыўной рабоце. Неабходна памятаць, што кулак, які, да рэчы сказаць, пралез у той ці іншай калгас і адтуль яшчэ ня вычышчаны—будзе і ў гэтым годзе праводзіць сваю падрыўную работу. Ён будзе старацца мець уплыў на паасобных калгасьнікаў, агітуючы за продаж збожжа на рынку, за павышэньне спажывецкіх патрэб і г. д.

Трэба даць руйнуючы адпор усялякім кулацкім спробам, накіраваным к зрыву збожжазагатовак. Збожжагатоўкі ў калгасах павінны праходзіць пад лёзунгам: ніводнага кілё збожжа на рынак. Адначасова з гэтым трэба абвясьціць рашучую барацьбу з адміністраваньнем і перагібамі ў адносіне калгасаў і калгасьнікаў. Раённыя арганізацыі, сельпартячэйкі і сельсаветы і ўся савецкая грамадзкасьць павінны разгарнуць шырокую масавую растлумачальную работу вакол пытаньня падрыхтоўкі і правядзеньня збожжазагатовак. Неабходнай задачай зьяўляецца датэрміновае поўнае выкананьне і перавыкананьне пляну загатовак. Таму трэба ўжо зараз разгарнуць баявую падрыхтоўку да загатоўчай кампаніі. Асноўнымі момантамі падрыхтоўчай работы зьяўляецца сваячасовая ўборка ўраджаю, якая гарантуе добрую якасьць прадукцыі збожжа і сваячасовае выкананьне пляну.

У бягучую хлебазагатавіцельную кампанію перад калгасамі будуць стаяць дзьве асноўныя задачы: першая—гэта здаць поўнасьцю колькасьць таварнага збожжа, якое падлягае здачы (продажу) дзяржаве, і другое—закончыць здачу ў самы кароткі тэрмін.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач, усім калгассаюзам, МТС і праўленьням калгасаў прывесьці ў гатоўнасьць усе малацільныя машыны. Для выкананьня гэтай работы прыступіць зараз-жа. Маючы на ўвазе, што МТС і калгасы павінны будуць аднaчасова намалаціць патрэбную колькасьць жыта і пшаніцы на насеньне, колькасьць збожжа, падлягаючую здачы і патрэбную колькасьць насеньня для забясьпечаньня яравога кліну 1932 году. Гэта становішча патрабуе ад усіх дырэктароў МТС і праўленьняў калгасаў як сьлед падрыхтавацца да гэтай рабо-

ты, скласьці апэрацыйныя пляны, у якіх прадугледзецца поўнае выкарыстаньне ўсіх машын і рухавікоў і належнымі іх растаноўкамі, а таксама і людзкой рабочай сілы.

У гэтым годзе мы ня зможам поўнасьцю ахапіць малацьбу складанымі і паўскладанымі малацільнымі машынамі з мэханічнымі рухавікамі, таму неабходна поўнасьцю выкарыстаць маючыяся ў калгасах простыя малатарні. Настроям, якія меліся ў мінулым годзе ў асобных калгасах і нават раёнах, аб тым, што калгасы павінны малаціць толькі складанымі малацілкамі з мэханічнымі рухавікамі—павінна быць абвешчана рашучая барацьба. Усе малацілкі, як складаныя, так і простыя павінны работаць па абмалоту збожжа з максымальнай нагрузкай. Адначасова з малацьбой, трэба наладзіць зернаачыстку, як таго збожжа, якое прызначаецца на насеньне, так і збожжа здаваемага па загатоўкам. Для гэтага трэба зараз-жа адраманваць і падрыхтаваць да работы ўсе машыны па зернаачыстцы. Здаваемы па загатоўкам калгасны хлеб павінен быць высокім па якасьці.

Для таго, каб ня траціць дарма часу на іншыя работы, зьвязаныя з лішнімі перавозкамі здачы збожжа, трэба арганізаваць так, каб яна вытваралася непасрэдна з-пад малацілкі. Для гэтага трэба кожнаму калгасу загадзя дагаварыцца з загатоўчымі арганізацыямі аб пунктах здачы. Загатоўчым арганізацыям трэба як сьлед падрыхтавацца да прыёму збожжа; неабходна папярэдзіць недахопы, якія мелі месца ў мінулым годзе, калі прыехаўшыя падводы з хлебам прастаівалі па некалькі гадзін на пунктах з-за няўмелай і неарганізаванай пастаноўкі работы і адсутнасьці такой дробязі як гіры і г. д. Кожны калгас павінен зараз-жа заняцца пытаньнем тары. Усё налічча мяхоў у калгасах павінна быць улічана, старыя мяхі павінны быць адрамантаваны. Паставіць як задачу перад кожнай калгаснай гаспадаркай аб водпуску на час збожжазагатовак ня менш двух мяхоў. Ні ў якім выпадку нельга калгасам разьлічваць на атрыманьне мяхоў ад загатоўчых арганізацый.

У час перавозкі збожжа на загатоўчыя пункты і насыпі зярна ў мяшкі, брыгадзір павінен мець дастатковую колькасьць завязак, іголку і ніткі пры сабе для рамонту парваных мяхоў, ад чаго ў час перавозкі зерна бываюць вялікія страты. Калгасы павінны к пачатку загатоўчай кампаніі адрамантаваць і прывясьці ў гатоўнасьць увесь калгасны транспарт для перавозкі збожжа. Разьлічваць на мэханічны транспарт ні ў якім выпадку не патрэбна. Усе перавозкі павінны быць забясьпечаны кожным калгасам сваім транспартам поўнасьцю.

Работа па абмалоту збожжа і здачы на загатоўчыя пункты будзе праходзіць у пэрыяд, калі ў большасьці калгасаў будзе адчувацца напружанасьць у рабочай людзкой і конскай цягавай сіле ў зьвязку з правядзеньнем іншых работ у гаспадарцы, аднак яўна апартуністычным настроям і разважаньням аб тым, што малацьбу і задач па загатоўкам можна адкласьці на позьнюю восень, альбо зіму,—павінен быць дадзены самы рашучы адпор. Такія разважаньні павінны разглядацца, як шкодныя, кулацкія вылазкі. Неабходна ў гэтым годзе кончыць малацьбу поўнасьцю ўвосень, каб пасьля здачы таварнай прадукцыі зараз-жа прыступіць да разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах. Трэба таксама мець на ўвазе, што акрамя збожжазагатовак яшчэ надыходзяць кампаніі па загатоўкам бульбы, гародніны, ільну і інш., да якіх трэба таксама рыхтавацца.

Загатоўчая кампанія павінна праходзіць пад лёзунгам шырокага прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы, разгортваючы сацспаборніцтва і ўдарніцтва, калгасы павінны паказаць прыклады сваячасовай і поўнай здачы таварнай часткі прадукцыі.

Сялянская газэта ў Маскве арганізуе Ўсесаюзны конкурс пад старшынствам тав. Калініна на лепшае правядзеньне хлебазагатовак калгасамі. Праўленьням Райкалгассаюзаў, дырэкцыям МТС трэба шырока абвясьціць калгасы, аб праведзімым конкурсе і на калгасы якія датэрмінова выканаюць і перавыканаюць свае пляны, даслаць матэрыялы для прадстаўленьня к прэміяваньню. А. Залескі.

# Разьмеркаваньне даходаў

## павінна быць праведзена выключна па колькасьці і якасьці выкананай кожным калгасьнікам работы

## Пастанова Наркамзему СССР і калгасцэнтру СССР аб прыкладным разьмеркаваньні даходаў у калгасах у 1931 годзе

### Разьдзел I

Правільнае разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю ў калгасах па колькасьці і якасьці затрачанай працы і згодна запісанай у працоўную кніжку калгасьніка колькасьці працадзён мае рашаючае значэньне для вытворчага замацаваньня калгасаў, павялічэньня матар'яльнай зацікаўленасьці кожнага калгасьніка ў рабоце, павышэньня прадукцыйнасьці працы калгасьнікаў і далейшага росту калгаснага руху.

У адпаведнасьці з ростам вопыту асноўнай масы калгасьнікаў у гэтым годзе ва ўсіх раёнах і ва ўсіх калгасах павінны быць бязумоўна адкінуты меўшыя месца ў мінулым годзе недахопы ў разьмеркаваньні даходаў. Гэтыя недахопы выявіліся:

1. У разьмеркаваньні даходаў па душах, а не па колькасьці і якасьці затрачанай працы.

2. У разьмеркаваньні пад уплывам кулацкай агітацыі збожжа першага абмалоту сярод калгасьнікаў адразу наперад на цэлы год, што расстройвала працдысцыпліну і было аднэй з галоўнейшых прычын вялікіх страт пры ўборцы ўраджаю 1930 году.

3. У адсутнасьці правільнай арганізацыі, а таксама кантролю за выдачай грашовых і натуральных авансаў калгасьнікам.

4. У заблытанасьці ўліку даходаў калгасу і адсутнасьці правільнага ўліку затрачанай калгасьнікам працы.

5. У заблытанасьці разьлікаў паміж калгасамі і інш. арганізацыямі.

6. У яўна невыстарчальным удзеле масы калгасьнікаў у абгаварэньні парадку разьмеркаваньня грашовай і натуральнай часткі даходаў, зацяжцы ў разьмеркаваньні даходаў.

7. У яўна невыстарчальным кіраўніцтве практыкай разьмяркаваньня даходаў з боку зямельных і калгасных органаў.

Для таго, каб унікнуць памылак мінулага году, дапушчаных пры разьмеркаваньні даходаў, Наркамзем СССР і Калгасцэнтр абавязваюць зямельныя і калгасныя органы правесьці наступныя мерапрыемствы.

### Разьдзел II

1. Добра разьмеркаваць даходы немагчыма без дакладнага ўліку затрачанай калгасьнікамі працы і ўсіх атрыманых імі авансаў грашыма і натурай. Таму кожны калгас абавязан да пачатку ўборкі прывесьці ў поўную яснасьць запісы калгасьнікаў у яго працоўную кніжку, выпрацаваную ім колькасьць працадзён, а таксама выданыя калгасьніку авансы грашыма і натурай у лік выпрацаваных ім працадзён і ў далейшым ні ў якім выпадку не дапускаць спазьненьня запісаў працадзён у кніжку калгасьніка, праводзячы іх не радзей аднаго разу ў пяць дзён.

2. Праўленьні калгасаў абявязаны з асаблівай дакладнасьцю арганізаваць улік усяго сабранага ўраджаю, ні ў якім выпадку не дапускаць ссыпкі і складаньня прадуктаў без адпаведных запісаў, для чаго набыць неабходную колькасьць вагі, а ў выпадку немагчымасьці

дастаць вагу, арганізаваць прасьцейшы спосаб вымерваньня: мерамі, скрынкамі, мяшкамі, абмерам і г. д.

3. Рэвізійныя камісіі ў калгасах абавязаны не радзей аднаго разу ў месяц праверыць правільнасьць уліку прадуктаў і матар'ялаў і сваячасовасьць запісу паступаючых даходаў і выдаткаў, сваячасовасьць і правільнасьць запісу працадзён у працоўныя кніжкі калгасьнікаў.

Не пазьней 1-га жніўня ў паўднёвых раёнах і 15 жніўня ў іншых раёнах рэвізійная камісія ў кожных калгасе павінна зрабіць даклад агульнаму сходу калгасьнікаў (або сходу ўпаўнаважаных) аб выніках запісу працадзён у разрахунковыя кніжкі калгасьнікаў.

## Разьдзел III

1. З валавога даходу ў калгасе разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі належыць:

а) харчовае збожжа і іншыя прадукты за выключэньнем належачых здачы (продажу) па кантрактацыі і за выключэньнем насеннага страхавога і спэцыяльных харчовых фондаў, якія ствараюцца па пастанове калгасьнікаў;

б) кармы за выключэньнем належачых здачы (продажу) дзяржаве і фондаў, якія адкладваюцца для таварных фэрм і абагуленай жывёлы калгасаў, і страхавых фуражных фондаў;

в) грашовыя сродкі за выключэньнем тых, якія належаць да выплаты запазычанасьці, падаткаў, а таксама тых, якія адкладаюцца для забесьпячэньня пляну капітальнага будаўніцтва, на куплю інвэнтару і матар'ялаў і інш. выдаткаў для вядзеньня гаспадаркі і адлікаў у спэцыяльныя грамадзкія фонды.

2. У тых калгасах, дзе азімыя пасевы яшчэ не аграмаджаны, па пастанове агульнага сходу яны павінны быць аграмаджаны і ўключаны ў валавы даход калгасу. Уборка азімых пасеваў робіцца калектыўна.

Агульны сход калгасьнікаў абгаворвае і ўстанаўляе парадак і ўмовы, на якіх аграмаджваюцца азімыя.

3. Усе працадні калгасьнікаў, выпрацаваныя з 1 студзеня 1931 г. да 1-га студзеня 1932 г., у тым ліку і на азімым пасеве, зябленьні, шматгадовых насаджэньнях (травы, сады і інш.) і капітальным будаўніцтве, павінны быць залічаны пры разьмеркаваньні даходу 1931 году.

## Разьдзел IV

Харчовая частка валавога даходу разьмяркоўваецца так:

1. Выконваецца дагавор па кантрактацыі на здачу (продажы) прадукцыі дзяржаве.

2. Ствараецца насенны фонд у разьмерах, якія забясьпечваюць пашырэньне пасеўнай плошчы ў 1932 годзе ня менш як на 10—20 проц., у адпаведнасьці з плянам пашырэньня пасеваў калгасу на 1932 г. і страхавы насенны фонд у разьмеры—10-15 проц. насеннага.

3. Ствараецца спэцыяльны харчовы фонд:

а) для забесьпячэньня сем'яў калгасьнікаў, якія маюць малую колькасьць працаздольных і ня выпрацавалі, ня гледзячы на сваю добрасумленную работу, колькасьці працадзён, неабходнай для забесьпячэньня сям'і харчамі;

б) для забесьпячэньня настаўнікаў, аграномаў, зоатэхнікаў, і вэтэрынарных дактароў, якія абслугоўваюць калгас;

в) для забесьпячэньня адыходнікаў і іх сем'яў, якія ня могуць атрымаць неабходнай для іх колькасьці хлеба і кармоў дня жывёлы ў выпадку невыстарчальнай колькасьці ў сям'і працаздольных, з такім разьлікам, каб адыходнікі і іх сем'і атрымалі харчаваньня і кармоў столькі-ж, колькі атрымлівае калгасьнік, добрасумленна працаваўшы ў калгасе. Калі працаздольныя члены сям'і адыходніка адмаўляюцца ад работы ў калгасе, дык сям'я адыходніка гэтай ільготай не карыстаецца.

> **Увага.** Выдача з паказанага ў пункце трэцім харчовага фонду робіцца калгасам па ўстаноўленых дзяржавай цэнах.

4. Уся асноўная маса харчовых прадуктаў, за вылікам зданай (праданай) па кантрактацыі, адкладзенай у насенны, страхавы і спэцыяльныя харчовыя фонды, разьмяркоўваецца паміж калгасьні-

камі па колькасьці і якасьці працы, згодна выпрацаваным працаднём, запісаным у працоўную кніжку калгасьніка.

Увага 1: Па меры ходу абмалоту і выкананьня ўзятых на сябе калгасам абавязацельстваў па кантрактацыі калгасьнікам выдаюцца авансы харчовымі прадуктамі ў лік прадукцыі, якая ім прылічваецца ў адпаведнасьці з выпрацаванымі імі працаднямі. Авансы выдаюцца ў разьмеры, які ўстанаўляецца калгасам.

Увага 2: У кожным калгасе ў залежнасьці ад колькасьці харчовых прадуктаў, якія належаць разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі устанаўляецца вышэйшы разьмер харчавога збожжа, якое атрымлівае калгасьнік, выпрацаваўшы найбольшую колькасьць працадзён, прычым звыш гэтага ўстаноўленага разьмеру калгасьнік, даход, які яму прылічваецца, атрымлівае грашыма. калгасьнік, які выпрацаваў меншую колькасьць працадзён, атрымлівае параўнальна з лепшым калгасьнікам меншую колькасьць харчовага збожжа.

## Разьдзел V

Кармовая прадукцыя калгасу разьмяркоўваецца так:

а) выконваецца плян здачы (продажу) дзяржаве ўсіх кармоў у разьмерах, прадугледжаных дагаворам аб кантрактацыі;

б) ствараюцца фуражны фонд грубых і канцэнтраваных кармоў для поўнага забесьпячэньня патрэбнасьці таварных калгасных фэрм і рабочай абагуленай прадукцыйнай жывёлы калгасу і запасны фуражны фонд для пашырэньня жывёлагадоўлі, якое намячаецца з фонду, які прызначан для абагуленай жывёлы, павінна быць выдзелена недатыкальная частка для рабочай жывёлы на час падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы.

Кармы, якія адлічаны для калгасных таварных фэрм, бранію юцца за таварнымі фэрмамі і могуць быць выдаткаваны толькі на патрэбы таварных фэрм.

в) усе кармы, якія застаюцца пасьля выкананьня дагавору па кантрактацыі і стварэньня фуражнага і запаснога фуражнога фондаў, разьмяркоўваюцца паміж калгасьнікамі, якія маюць прадукцыйную жывёлу, па колькасьці выпрацаваных калгасьнікам працадзён з улікам наяўнасьці ў яго прадукцыйнай жывёлы.

Увага: Калгасьнікі, якія ня маюць прадукцыйнай жывёлы, атрымліваюць долю даходу, якая ім прылічваецца, замест фуражу грашыма;

г) калгасьнік, які набудзе прадукцыйную жывёлу пасьля разьмеркаваньня ўраджаю, можа атрымаць неабходную колькасьць кармоў, у адпаведнасьці з выпрацаванай ім колькасьцю працадзён з запаснога фуражнага фонду.

## Разьдзел VI

Пасьля таго, як з грашовых даходаў калгасаў вылічылі падаткі, страхоўку і запазычанасьць па крэдытах, якія неабходна аплаціць у 1931 годзе, калгас адлічвае:

1. 15 проц. у старых калгасах і 10 пр. у калгасах, арганізаваных пасьля кастрычніка 1930 году, у непадзельны фонд які прызначаецца для набыцьця, машын, рабочай і прадукцыйнай жывёлы і на капітальнае будаўніцтва.

Непадзельны фонд выдзяляецца ў грошах (у рублёх).

2. 2 проц. для разьмеркаваньня па маемасьці, аграмаджанай калгасьнікамі, галоўным чынам, па кошце аграмаджанай імі прадукцыйнай жывёлы.

3. $1^1/_2$ проц. у прэміяльны фонд для прэміяваньня лепшых калгасьнікаў-ударнікаў, брыгадзіраў.

4. $1^1/_2$ проц. для дапамогі калгасьнікам якія пасылаюцца на розныя курсы.

Увага. У раёнах, дзе няма яшчэ суцэльнай калектывізацыі, паказаны ў п. п. 2, 3, 4 фонд разьмяркоўваецца згодна аграмаджанай маемасьці. Разьмер гэтага фонду вызначаецца ў 5 проц. даходу.

5. 2 процанты ў культурна - бытавы фонд.

6. Уся асноўная маса грашовых сум, за выключэньнем тых, якія адлічваюцца

ў пералічаныя вышэй фонды, а таксама аплата вытворчых выдаткаў, разьмяркоўваецца паміж калгасьнікамі адпаведна колькасьці працадзён, выпрацаваных кожным калгасьнікам і запісаных у яго працоўную кніжку.

### Разьдзел VII

Парадак і тэрмін разьмеркаваньня даходаў устанаўляюцца праўленьнем калгасу і зацьвярджаюцца агульным сходам калгасьнікаў, кіруючыся наступнымі палажэньнямі:

1. Праўленьні калгасаў абавязаны зрабіць разьмеркаваньне паміж калгасьнікамі долі даходаў за 1931 год, якая ім прылічваецца не пазьней 15 студзеня 1932 году.

2. Для здавальненьня патрэб калгасьнікаў да канчатковага разьмеркаваньня даходаў у калгасе, па пастанове праўленьня калгасу калгасьнікам могуць выдавацца грашовыя і натуральныя авансы выключна ў лік выпрацаваных калгасьнікам працадзён, прычым авансы могуць выдавацца толькі тым калгасьнікам, якія выконваюць працоўныя заданьні праўленьняў калгасаў.

3. Пры канчатковым разрахунку з калгасьнікамі з агульнай сумы долі даходаў, якая ім прылічваецца, павінны быць утрыманы ўсе натуральныя і грашовыя авансы, якія былі выданы калгасьнікам на працягу году.

4. Праўленьням калгасаў даецца права пазбаўляць натуральных і грашовых авансаў калгасьнікаў, якія дрэнна працуюць па ўборцы, азімай сяўбе і зяблевым ворыве, прычым выдачу авансаў такім калгасьнікам адносіць у апошнюю чаргу.

5. Абавязаць праўленьні калгасаў да 1 кастрычніка 1931 году ў паўднёвых раёнах і да 1 лістапада ў іншых раёнах прыкладна вызначыць разьмер разьмяркоўваемых сярод калгасьнікаў даходаў і выдаць калгасьнікам у адпаведнасьці выпрацаванай імі колькасьцю працадзён каля $^{2}/_{3}$ усёй іх долі даходаў з тым, каб апошняя трэць была выдана пры канчатковым разрахунку не пазьней 15 студзеня 1932 году.

* * *

Наркамзем СССР і Калгасцэнтр абавязваюць праўленьні калгасаў, райза і райкалгассаюзы арганізаваць шырокае абгаварэньне гэтай пастановы з тым, каб кожны калгасьнік ведаў парадак разьмеркаваньня даходаў не пазьней першага жніўня.

Абавязаць наркамземы саюзных рэспублік, калгасцэнтры, аблкрайзу і аблкрайкалгассаюзы арганізаваць масавую праверку няўхільнага выкананьня гэтай пастановы.

У гэтым годзе ні ў адным калгасе не павінна быць дапушчана разьмеркаваньне даходаў як грашовых, таксама і натуральных па душах.

Наркамзем СССР і праўленьне Калгасцэнтру СССР напамінаюць усім калгасьнікам абавязковую пастанову VI зьезду саветаў, у якой гаворыцца:

„Разьмеркаваньне даходаў (як грашовых так і натуральных) не па колькасьці і якасьці ўкладзенай калгасьнікамі працы, а па душах вельмі часта прапаведуецца кулакамі і іншымі ворагамі калгасаў, якія прабуюць сарваць калгасную справу. Такім аматарам пажыць за лік чужой працы неабходна аказваць самы рашучы адпор аж да выключэньня іх з калгасаў. Разьмеркаваньне калгасных даходаў па прынцыпе—хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае, хто не працуе, той нічога не атрымлівае,—павінна стаць правілам для ўсіх калгасьнікаў і калгасаў.

Народны Камісар земляробства
Саюзу ССР **Я. Якаўлеў**.

Старшыня праўленьня Калгасцэнтру
**Т. Юркін**.

12 ліпеня 1931 г.

# ПОСЬПЕХ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ ЗАБЯСЬПЕЧВАЕ

**правільная арганізацыя працы ў калгасах на аснове зьдзельшчыны, дасканалы ўлік у працаднёх выкананай кожным калгасьнікам колькасьці і якасьці работы, ударныя бальшавіцкія тэмпы работы на калгасных палёх**

## Бурная хваля прыліву ў калгасы

Рэчыцкі раён—адзін з буйнейшых раёнаў БССР, мае 35 сельсаветаў з 208 насельнымі пунктамі.

Калгасы раёну сваячасова і па ўдарнаму падрыхтаваліся да ўборкі ўраджаю. Амаль усе калгасы пераведзены на зьдзельшчыну складзены плян працы летняй уборачнай кампаніі, выпісаны працоўныя кніжкі і выданы на рукі калгасьнікам, за выключэньнем арганізуемых зараз новых калгасаў.

Калгасы на грунце брыгаднай і зьдзельнай працы пры дапамозе сацспаборніцтва шырока разгарнулі ўборку сенажаці.

Гэта масавая дружная супольная праца выклікала шырокую хвалю прыліву ў калгасы аднаасобнікаў, беднякоў і серадпякоў. Гэтымі днямі ў колгас „Чырвоны шлях“ улілося 4 новых гаспадаркі; „Парыская камуна“—12 гаспадарак і ў калгас „Эўропа“—3 гаспадаркі.

У калгасе імя Дзяржынскага працуе дзьве ўдарныя брыгады па ўборцы сена. За 4 дні скошана 45 *га* сенажаці. На сенажаці часова ўведзена агульнае харчаваньне і ў час абедзенага перапынку праводзіцца галосная чытка газэт. Брыгада Дворніка Гаўрылы за дзень склала два стагі сена—600 пудоў, замест аднаго ў 300 пудоў. За гэтыя дні касьбы ўступіла новых 10 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і падача заяў з кожным днём працягваецца.

Калгасам „Рухавік рэвалюцыі“ 10-га чэрвеня прынята 19 гаспадарак.

Па Азершчынскаму сельсавету з пачатку веснавой сяўбы калектывізаваных гаспадарак было ўсяго 1 проц., але за час падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю калектывізавана 12 проц. гаспадарак. За апошні час па асобных паселішчах с.-с. маецца прыліў: пас. Борхаў поўнасьцю калектывізаваны, Дзяражня—14 гаспадарак і Унорыца 2 гаспадаркі. Арганізаны новы калгас „Чырвоны Дняпровец“— 15 гаспадарак.

За 7 дзён у калгас „Мудрэц“ (Брашчоўскі сельсавет) уступіла 22 гаспадаркі.

Калгас імя Сталіна разьбіў працоўную сілу на 9 брыгад, паміж якімі разгорнута сацспорніцтва і ўдарніцтва. На 3-е чэрвеня было скошана 68 *га* і 40 *га* ўбрана. Брыгада № 1 брыгадзіра Трубялева ідзе першай, скашвае па 0,6 *га* на кожнага касца, за ёю не адстае брыгада № 2. Праполка скончана і ўзарана 12 *га* папару. Добрая праца выклікала новы прыліў, уступіла новых 8 гаспадарак.

У Холмецкім і Сьведзкім сельсаветах 6 ліпеня на заклік у калгас імя XI-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў уступіла 20 аднаасобных гаспадарак і ў другіх сельсаветах па гэтаму закліку паступаюць новыя заявы аб прыёме у калгас.

Калектывізацыя ў Артукоўскім сельсавеце ідзе шпаркімі тэмпамі наперад. У пасёлку Ляховец і „Беразок“ арганізаваны калгас „Пралетарская Перамога“ ў ліку 23 гаспадарак. Зараз сельсавет калектывізаваны на 42,3 проц.—420 гаспадарак.

Калгас „Новае жыцьцё“ плян веснавой сяўбы выканаў на 123% З 5 гаспадарак за час сяўбы ўзрос да 33 гаспадарак. Прыліў ня спыняецца. Зараз ужо калгас налічвае 45 гаспадарак. Нядаўна ініцыятыўная група пас. Новы Сьвет у складзе 7 гаспадарак падала заяву аб перадводзе іх у калгас „Новае жыцьцё“. Калгас ужо ў поўнай гатоўнасьці да ўборкі ўраджаю. Заключыў сацумову з калгасам „Савецкая Беларусь“ на лепшае правядзеньне і датэрміновае сканчэньне ўборачнай кампаніі.

Спачатку веснавой кампаніі было калектывізавана 6 проц. гаспадарак па раёну. Зараз па апошняй зводцы на 30-VI у раёне мелася 97 калгасаў з лікам 3522 гаспадаркі, што складае 21,7 проц., а на сёнешні дзень (7-VII-31 г.) у раёне калектывізавана 23,6 проц. гаспадарак.

Зараз кожная новая зводка калектывізацыі прыносіць новую колькасьць арганізаваных калгасаў і дзесяткі ўноў уліўшыхся аднаасобных гаспадарак у калгасы.



т. Давідовіч брыгадзір-ударнік калгасу „Дзяржынскага“ (Лагойскі р.) прэміяваваны на міжраённым зьлёце ўдарнікаў.

Такіх вынікаў у галіне калгаснага будаўніцтва раён дабіўся, дзякуючы добра наладжанай растлумачальнай і масавай працы паміж насельніцтвам раёну, і бурнаму ўздыму рабселькораўскага руху і ўзмацненьне працы насьценгазэт, ударныя брыгады друку, рэйды, зьлёты, пасты і г. д. **Юрка Снытко.**



Трактары калгасу імя 9-е студзеня (Койданаўскі раён) да ўборкі падрыхтаваны.

# Новы калгасны прыліў

Дзякуючы пасьпяховаму сканчэньню другой бальшавіцкай сяўбы, растлумачальнай рабоце і папулярызацыі новага закону аб сельска-гаспадарчым падатку, рашэньняў усесаюзнага зьезду саветаў выклікала нябывалы зрух у калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Мохіраўскага сельсавету, Полацкага раёну.

Бедната і серадនякі, абгаварыўшы гэтыя пытаньні, цэлымі вёскамі пачалі аб'яднацца ў калгасы.

У вёсцы Рашкава арганізаваўся калгас „Зьвязда“ з 15 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У вёсцы Стаскава арганізаваўся калгас „1-е мая“. У вёсцы Масках арганізаваўся калгас „Серп і молат“, у вёсцы Дзогодках арганізаваўся калгас „Баявік“, у вёсцы Асяродках арганізаваўся калгас Будзёнавец“, У шмат якіх вёсках арганізаваліся новыя калгасы.

Такім чынам за кароткі час у Махіраўскім сельсавеце арганізавалася 9 новых калектыўных гаспадарак, у якія ўвайшло звыш 50 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У калгасе „Савецкая Беларусь“ за час сяўбы ўступіла 36 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, у камуну „Чырвоны артылерыст“—8 гаспадарак.

Апрача гэтага ў ініцыятыўныя групы ўступіла 38 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Процант калектывізацыі з 18 проц. павялічыўся да 54 проц. Нова арганізаваныя калгасы прыступілі да ўборкі ўраджаю на аснове зьдзельшчыны.

**Мікола Яроменка.**

# Бліскучыя вынікі зьдзельшчыны

*(Жыткавіцкі раён)*

У калгасе „Савецкая Беларусь“ у гэтым годзе уся работа праводзіцца на аснове зьдзельшчыны. Дзякуючы зьдзельнай працы і сталых норм выпрацавак тэмпы і зацікаўленасьць калгасьнікаў працаваць па ўдарнаму значна ўзрасла. Калі ў мінулым годзе праполка ільну і агародных культур марудна цягнулася, а ўборка сенажацяй нават і ў жніўні месяцы была ня скончана, дык у гэтым годзе атрымліваюцца добрыя вынікі.

Брыгада касцоў у 14 чалавек на чале брыгадзіра Кацюбінскага за адзін дзень (27-VI) скасіла 8,8 *га* сенажаці, а гэта значыць што згодна ўстаноўленай ў калгасе нормы выпрацоўкі (на 1 *га* сенажаці патрэбна ад 3-х да 4 касцоў, у залежнасьці ад якасьці сенажаці) патрэбна было, калі нават лічыць 3 касцы на гектар, паставіць 27 касцоў, каб скасіць гэтую плошчу, а паколькі брыгада Кацюбінскага працавала па ўдарнаму і выканала гэтую норму то праўленьне, калгасу прымаючы пад увагу, што гэта праца адносіцца да разраду цяжкіх прац (адзін дзень залічваецца 1,25 працадня), запісала ў працоўную кніжку кожнаму касцу па 2,41 працадня. Таксама брыгада па ўборцы есна ўліку16 асоб убрала і склала ў стагі сена з 5 *га*, а згодна нормы выпрацоўкі (для ўборкі 1 *га* сенажаці патрэбна 5 асоб) патрэбна было паставіць 25 калгасьнікаў: палову на цяжкую працу (мятаць стагі), а палову на сярэднюю працу. Брыгада гэта працавала па ўдарнаму і выканала гэтую працу акуратна. 8 калгасьнікам, якія працавалі на цяжкай працы, запісалі (1 працадзень залічылі за 1,25 працаўня) па 1,95 працадня, а 8 астатнім калгасьнікам, працаваўшым на сярэдняй працы па 1,56 працадня. Такіх прыкладаў магчыма прывесьці больш, але і гэтыя яскрава пераконваюць калгасьнікаў у тым, што зьдзельшчына надае ўдарныя тэмпы ў працы. Заахвочвае калгасьніка працаваць сумленна, паскарае тэмпы па ўборкі ўраджаю, разьбівае ўшчэнт падбухторваньне кулака не згаджацца на зьдзельшчыну. Дзякуючы ўкараненьню зьдзельшчыны калгас своечасова скончыў праполку ільну, проса і агародныя культуры, убраў канюшыну і заканчвае ўборку сенажаці (ужо прыбрана 93 *га*).

Толькі дзякуючы зьдзельшчыне ідзе масавы калгасны прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

С. С-ко.

# БАРАЦЬБА ЗА БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЭМПЫ І ЯКАСЬЦЬ, ПАМНОЖАНЫЯ НА ПАСЬЛЯДОЎНУЮ ПРАВЕРКУ ВЫКАНАНЬНЯ—
## цэнтральная задача рабселькораўскага руху

# Другі рабсельваенкораўскі

З 10 па 16 ліпеня праходзіў другі Ўсебеларускі зьезд рабселькораў, які быў скліканы ЦК КП(б)Б і рэдакцыяй газэты „Зьвязда“.

Гістарычнае значэньне адбыўшагася 2-га Ўсебеларускага зьезду рабселькораў у тым, што ён быў скліканы ў трэці рашаючы год пяцігодкі, у дні перабудовы рабселькораўскага руху, калі „рабселькоры становяцца пад кіраўніцтвам партыі, арганізатарамі мас для справы сацыялістычнага будаўніцтва, выкананьне вытворчых плянаў і разгорнутага наступленьня на клясавага ворага“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 16 красавіка 1931 году).

Пры адчыненьні зьезду адказны рэдактар газэты „Зьвязда“ тав. Будзінскі—адзначыў, што мы па БССР змаглі 40 проц. аднаасобных—бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднаць у калгасы. Мы памножылі сілы гэтых аднаасобных гаспадарак на пралетарскую арганізацыю працы. Дзякуючы высокім тэмпам росту сацыялістычнай прамысловасьці, мы гэтыя сілы дапоўнілі мэханізацыяй працы. Гэта вялізарныя дасягненьні ў параўнаньні з тым становішчам, якое было два гады таму назад.

Але ў параўнаньні з вынікамі калектывізацыі па ўсім СССР, наша рэспубліка зьяўляецца адстаючай, якая тармазіць рух наперад усяго СССР; 40 проц. калектывізацыі па БССР зьніжаюць процант калектывізацыі па ўсяму Савецкаму Саюзу. Але ў нас ёсьць усе магчымасьці для таго, каб дробныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі аб'яднаць у буйныя калектывы з тым, каб ператварыць іх у высокатаварныя сацыялістычныя гаспадаркі, каб дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны.

Але, каб дагнаць і перагнаць нам капіталістычныя краіны, трэба памятаць аб аб тэмпах. Ударныя бальшавіцкія тэмпы будаўніцтва—адна з галоўных задач нашай перамогі над капіталістычным сьветам, нашы перамогі ў сусьветным маштабе. Мы будуем сацыялізм ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, перамагаючы супраціўленьні клясавага ворага ўнутры краіны і прошукі сусьветнай буржуазіі.

Кулацтва, бачачы сваю пагібель перад рашучым наступам сацыялізму, скарыстоўвае апошнія свае сілы для таго, каб пашкодзіць пасьпяховаму калгаснаму будаўніцтву і гэтым працягнуць сваё існаваньне як клясы. Але калгасныя масы і беднякі і серадлякі—аднаасобнікі—заўтрашнія калгасьнікі пад кіраўніцтвам партыі даюць рашучы адпор усялякім кулацкім спробам сарваць наша сацыялістычнае будаўніцтва.

З дакладам аб выніках ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б выступаў сакратар ЦК тав. Гей, які ў вялікай прамове адзначыў нашы посьпехі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Тав. Гей ўказаў на тыя задачы, якія стаяць перад рабселькорамі ў сацыялістычнай стройке.

Акрамя гэтага на 2-ім Усебеларускім рабселькораўскім зьезьдзе былі заслуханы даклады аб рабселькораўскім руху парткіраўніцтве і ўдарніцтве ў друку, аб перабудове рабселькораўскага руху сузадпаведна з задачамі сёнешняга дню.

На зьезьдзе працавалі наступныя сэкцыі: мэталяапрацоўчая, торфа-энэргэтыка, чыгуначна-воднага транспорту, па перабудове каапэрацыі, жывёлагадоўлі, сьвінагадоўлі, ільнаводная і тэхкультур, МТС і г. д.



Група дэлегатаў на 2-ім Усебеларускім зьезьдзе рабсельваенкораў.

Зьезд віталі шматлікія селькораўскія дэлегацыі з прадпрыемстваў і калгасаў БССР.

Падводзячы вынікі работы зьезду трэба адзначыць, што рабселькораўскі рух пачынаецца перабудоўвацца ў адпаведнасьці нарастаючых тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Але ўсё-ж справа разгортваньня рабселькораўскага руху, справа забесьпячэньня парткіраўніцтвам на мясцох да апошняга часу знаходзілася ў нездавальняючым становішчы. Нам патрэбна клясавая пільнасьць, барацьба супроць пралязаньня ў рады рабселькораў і рэдкалегій клясавага ворага. Узмацненьне парткіраўніцтва, якое забясьпечыць далейшы рост у завяршэньні перабудовы рабселькораўскага руху. У ленінскім злучэньні ўдарніцтва друку, ударніцтва на вытворчасьці—у гэтым палітычны сэнс рабселькораўскага руху рэканструкцыйнага пэрыяду.

## ЛЕПШЫЯ ЎДАРНІКІ Ў РАДЫ РАБСЕЛЬКОРАЎ

### Рапарт калгасу „Сацыялізм“

Мы калгасьнікі інтэрнацыянальнага калгасу „Сацыялізм“ (Стара-Дароскі раён) вітаем Усебеларускі зьезд рабселькораў і рапартуем пра свае дасягненьні на фронце змаганьня за новую сацыялістычную гаспадарку.

Вясною гэтага году ў нашым калгасе налічвалася 37 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Другая бальшавіцкая вясна дала новых калгасьнікаў. Зараз наш калгас аб'яднае 96 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, мае 3 аддзяленьні: Новічы, Александроўка і Новыя Ісовічы.

Плян засеву яравога кліну калгас перавыканаў. Нам трэба было засеяць 227 *га*, а засеяна 298,75 *га*, з іх засеяна аўса 76 *га* (замест 67 *га*), бульбы 77 *га* (па пляну 75), ільну 11 *га* (замест 9 *га*), гароху засеяна 12,5 *га* (па пляну 8), сілосных культур засеяна 9,5 *га* (трэба

было засеяць 3), вікі насеннай—22 *га* (замест 10), лубіну на насеньне пасеяна 12 *га* (замест 6 *га*).

Звыш пляну мы пасеялі: яравога жыта 11 *га*, бручкі кармовай 2 *га* і інш. Уся праца па сяўбе праходзіла шляхам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Лепшыя ўдарнікі веснавой сяўбы Александраў Янка, Александраў Алесь, Язьвінскі Тамаш, Былынка Адам, Сташко Ядвіга, Эпштэйн Арон—праўленьнем калгасу прэміруюцца.

Ударніцтва з калгасных палёў перакінулася зараз на ўборку сенажацяй. Створаны ўдарныя брыгады касцоў, грабкоў і сушыльнікаў. Сенажаць разьбіта на асобныя вучасткі, да якіх прымацованы асобныя брыгады, якія адказваюць за сваячасовасьць і якасьць уборкі сенажаці. Уся работа па ўборцы сена пераведзена на зьдзельшчыну, ацэненую ў працаднёх. Нормы выпрацоўкі перавыконваюцца па ўсіх відах работы. На 7 ліпеня ў нашым калгасе скошана і складзена 12 стагоў канюшыны, 20 стагоў сена. Уборка праходзіць пасьпяхова. Калгасьнікі адмовіліся ад выхадных дзён. Мы пастанавілі: скончыць уборку сенажаці да 25 ліпеня, запэўніваем Усебеларускі зьезд рабселькораў, што гэтыя абавязацельствы мы выканаем з гонарам.

Прапалка ільну, гароху і акучваньне бульбы праходзіць здавальняюча. Наша задача—ня толькі пасеяць, але і наглядаць за пасевамі, сабраць, апрацаваць і здаць лішкі дзяржаве.

На час сяўбы і ўборкі ў нашым калгасе адчынены 2 яськяй. Дзеці весела гуляюць у яськях, жанчыны вольны ад дробнай хатняй работы.

Мы калгасьнікі падпісаліся на пазыку „Трэці рашаючы год пяцігодкі“ на суму 5 тысяч рублёў, набылі бібліятэку на суму 500 руб. У месячнік бальшавіцкага друку арганізавалі ў кожным аддзяленьні калгасу насьценныя газэты, якіх за час сяўбы і ўборкі сенажацяй выпушчана 11 нумароў. Рады селькораў пашыраюцца: раней было 2 селькоры, а цяпер—21.

Шлём шчырае бальшавіцкае прывітаньне рабселькорам Савецкай Беларусі, якія пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б змагаюцца за генэральную лінію партыі.



**Прэміраваная брыгадзірша-ўдарніца т. Калугіна калгасу „Шлях да сацыялізму“ (Гомельскі раён).**



**Уборка ўраджаю ў калгасе.**

# СКОНЧЫЦЬ УБОРКУ, У САМЫ КАРОТКІ ТЭРМІН

## Поўнасьцю ўвязаць уборку ўраджаю, асеньнюю пасеўную кампанію з задачамі суцэльнай калектывізацыі

## УБОРКА ЗЕРНАВЫХ КАРМАВЫХ КУЛЬТУР

Усьлед за сенаўборкаю, у калгасах павінна быць разгорнута работа па ўборцы зернавых кармавых культур. Гэтая кампанія набывае асабліва важнае значэньне для спэцыялізаваных сьвінаводных і малочна-жывёлагадоўчых калгасаў, малочна-таварных і сьвінаводна-таварных калгасных фэрм, якім на зімовы пэрыяд патрабуецца загатовіць вялікія колькасьці моцных кармох. Усім добра вядома, што для стварэньня належнай кармавой базы калгасным гаспадаркам трэба мець грубыя, сакавітыя і моцныя кармы, пры чым процант моцных кармоў у калгасах трэба значна павялічваць у параўнаньні з мінулымі гадамі. Толькі пры гэтых умовах калгасы здолеюць выканаць плянавае заданьне па здачы ў зімовы пэрыяд прадукцыі — малака і малочных прадуктаў у малочна-жывёлагадоўчых калгасах і сьвінога мяса і сала ў сьвінаводных гаспадарках.

Да зернавых кармавых культур трэба адносіць такія каласавыя зернавыя культуры, як ячмень, жыта, авёс, проса, а таксама і зернавыя бабовыя, якія асабліва багаты бялком, напрыклад—віка, гарох, чачавіца, конскія бабы і інш. Па тэрмінам уборкі з пачатку ідуць зернавыя каласавыя культуры--раньні ячмень, азімае жыта, а потым ужо ідуць авёс, віка на зярно, гарох, чачавіца, грэчка, позьні ячмень і г. д.

З уборкаю раньняга ячменю, розных азімых і яравых мешанак калгасам трэба асабліва тарапіцца, каб зараз-жа пасьля зьёмкі іх засеяць пажніўныя культуры. Як толькі будзе прыбрана галоўная расьліна, так поля зараз-жа перапахіваецца, бароніцца і засяваецца кармавымі расьлінамі. З такіх пажніўных культур у БССР можна рэкамандаваць розныя мешанкі—віка з аўсом, а калі няма насеньня бабовых, то трэба высяваць мешанкі яравых хлябоў—авёс з ячменем,



Сілосная вежа калгасу „Новы Шлях“ (Астр.-Гарадзецкага раёну).

альбо азімае жыта. Акрамя таго можна высяваць і караньплоды, як пажніўныя культуры. Да іх трэба аднесьці турнэпс, а таксама кармавыя буракі, бручку і кармавую капусту. Турнэпс можна высяваць звычайна, а кармавыя буракі, бручку і капусту трэба разводзіць шляхам перасадкі. Усе гэтыя пажніўныя культуры дазваляюць калгасам сабраць два ўраджаі ў год.

Тэхніка ўборкі зернавых каласавых вядома калгасам. Уборка ўтвараецца жактамі, снопавязалкамі і тут калгасам неабходна толькі правільна арганізаваць працу, правільна расставіць сілу, даўшы поўную нагрузку машынам і рабочым рукам.

Пры ўборцы зернавых бабовых куль-

тур велькі важна бывае вызначыць час ўборкі, паколькі высьпяваньне бабоў праходзіць нераўнамерна. Таму ракамандуецца не чакаць поўнага вызраваньня



Прэміраваны брыгадзір-ударнік т. Трахімовіч калгасу „Камінтэрн" (Слуцкі раён).

бабоў, гароха, вікі, а прыступаць да ўборкі, як толькі пажаўцеюць ніжнія бабы, а зярно прыме цьвёрдую кансыстэнцыю. Уборка гароха і вікі вытвараецца звычайна касою, а валы потым скатываюцца ў невялікія кучы. Калі ў колгасе маюцца вялікія плошчы засеву гароха, вікі і яны не надта палегшы, то ўжываюць машынную ўборку. Для гэтай мэты выкарыстоўваюцца звычайныя сенакасілкі з ужываньнем асобна прыстасоўваемых башмакоў, якія прымацоўваюцца да пальцавай рамы касы праз кожныя 2—3 пальца і якія перад скразаньнем прыпадымаюць расьліны. Скошаныя расьліны скатваюцца ў невялікія кучы, высушваюцца і звозяцца ў скірды. Малацьба бабовых вытвараецца звычайнымі хлебнымі малатарнямі.

Уся работа павінна выконвацца брыгадамі зьдзельна, пры чым брыгады прымацоўваюцца да пэўных уборачных вучасткаў, а асобныя работнікі прымацоўваюцца да трактара, каня і машын. Такім чынам зьдзельшчына, пры гэтым індывідуальная і дробна-групавая, строгае нарміраваньне працы і дакладны яе ўлік на падставе шырокага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва вырашаюць пасьпяховасьць поўнага і своечасовага сканчэньня ўборкі зернавых кармавых культур, ураджаем якіх калгасы здолеюць забясьпечыць поўнасьцю кармавыя запатрабаваньні прадукцыйнага жывёлагадоўства ў 1931 годзе. **Л. Агеяў.**

# ПАСЬПЯХОВАЯ ЎБОРКА ДАЕ НОВЫ ПРЫЛІЎ У КАЛГАС

*(Чырвона-Слабодзкі раён)*

Калгас „Нараджэньне сацыялізму" распачаў уборку канюшыны і сена з 18 чэрвеня. Па касьбе складзен плян, які папрадугледжвае дасканалую расстаноўку рабочай сілы—касцоў. Усяго работаюць 42 касцы.

Касьба канюшыны і сенажаці праводзіцца зьдзельна. Нормы выпрацоўкі касцоў устаноўлены наступныя: 6 касцом за скошаны 1 *га* палёгшай канюшыны запісваецца 1 працадзень, а за скошаны 1 *га* заліўной сенажаці 3 касцом запісваецца таксама 1 працадзень. І скашваньне 1 *га* незаліўной сенажаці 1 працадзень 2 касцом. Дзякуючы разгорнутаму сацспаборніцтву і ўдарніцтву вышэйпаказаныя нормы касцы перавыконваюць на 30—50 проц.

Ударная праца калгасьнікаў па ўборцы сена і канюшыны выклікала новы прыліў у калгасы з ваколічных вёсак. Так, напрыклад, у вёсцы Заўшыцы бедната і сераднякі арганізавалі калгас „Чырвонскія баркі", у які ўвайшло 55 гаспадарак. Уноў арганізаваны калгас па ўдарнаму ўзяўся калектыўна ўбіраць сена і канюшыну.

**Алесь Курловіч.**

# Па-бальшавіцку ўбярэм ураджай

*(Жыткавіцкі раён)*

Выкананьне плянаў сяўбы другой бальшавіцкай вясны патрабавала вялікай напружанасьці. Раён узяў быў бальшавіцкія тэмпы ў правядзеньні гэтай кампаніі і ня гледзячы на спробы кулацкіх элемэнтаў сарваць намечаныя пляны сяўба скончана пераможна.

Плян веснавой сяўбы па раёну на 15 чэрвеня быў ужо выкананы 8 тысяч 936,9 *га*, што складае заданьня 100,8 проц., а па тэхкультурах плян выканан на 152,4 проц.

Лепшымі змагарамі за сяўбу зьявіліся калгасы імя Леніна і імя Варашылава, якія першымі да тэрміну скончылі сяўбу і перавыканалі пасеўныя пляны. Калгас імя Леніна за лепшую ўдарную работу прэміраваў 8 калгасьнікаў-ударнікаў: Майшука Несьцера, Юхневіча Мікіту, Цяржно Марыну, Ахрамовіч Ганну і інш.

Адстаючым калгасам АЗЭТ і др. была аказана сваячасовая дапамога.

Раён, скончыўшы пасьпяхова веснавую сяўбу, зараз-жа пераключыўся на правядзеньне праполкі і ўборкі ўраджаю. Маючы на ўвазе, што толькі ўкараненьне ва ўсіх работах зьдзельшчыны, правільны ўлік працы і сацспаборніцтва забясьпечыць сваячасовае і поўнае выкананьне ўборачных работ, асьветнікі Жыткавіцкага раёну былі мабілізаваўшы сябе на работу ў калгасы з 15 чэрвеня па 1 ліпеня, а асьветнікі-камсамольцы да 10 ліпеня.

У калгасах „Надубава - Чарацянкі“, „Пралетары“, „Бальшавік“, „Кастрычнік“, „Савецкая Беларусь“ і інш. складзены пляны ўборачнай кампаніі, выпісаны працоўныя кніжкі і г. д.

Калгасы на грунце ўнядрэньня зьдзельшчыны прыступілі да ўборкі сенажаці і канюшыны з паловы чэрвеня. Калгас „Надубава Чарацянка“ скончыў уборку канюшыны, прыступіў да сенажаці. Калгас „Савецкая Беларусь“ на 25 чэрвеня ўбраў 75 вазоў сена.



Тав. Казлоўскі, брыгадзір-ударнік калгасу III Інтэрнацыянал (Жлобінскі р), прэміраван на 3 зьлёце брыгадзіраў-ударнікаў.

Але разам з дадатнымі бакамі ёсьць і недахопы. У раёне лічыцца 3 тысячы 664 гаспадаркі, з якіх на 10-VI калектывізавана 1 тысяча 285 гаспадарак, што складае 35 проц., прычым у Вятчынскім сельсавеце з ліку 343 гаспадарак калектывізавана ўсяго толькі 7 гаспадарак, альбо 27 проц. У гэтым сельсавеце зусім адсутнічае масавая работа па арганізацыі прыліву ў калгасы.

МТС, якая зараз мае ўсяго 16 трактароў, ня зможа поўнасьцю абслужыць раён. Для рамонту трактароў адсутнічаюць запасныя часткі і таму разабраны адзін трактар і яго часткі выкарыстоўваюцца на рамонт астатніх. Недастатковая колькасьць камплектаў прылад для трактароў (на 16 трактароў усяго 7 камплектаў), якая зьяўлялася недахопаму веснавую сяўбу, можа паўтарыцца і восеньню. Адчуваецца недахоп уборачных машын, асабліва ільнацерабілак.

С. Ю.

# Выканаць праграму сьвінагадоўлі

Згодна вытворчага пляну, зацьверджанага ўрадам БССР, агульнае, стада сьвіней у 1931 годзе павінна быць даведзена ня менш, як да 432 тысячы галоў, з іх сьвінаматак ня менш як 150 тысяч і павінна быць здадзена таварнай прадукцыі 210 тысяч галоў сьвіней.

Усе ўмовы для выкананьня і нават перавыкананьня гэтага заданьня ў калгасах БССР маюцца, патрэбна толькі пабальшавіцку праводзіць гэтую работу. Неабходна прыцягнуць усю пралетарскую грамадзкасьць і ў першую чаргу шырокія масы калгасьнікаў у справе разьвіцьця буйнай сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Ёсьць шэраг выпадкаў, калі самі калгасьнікі ставяць пытаньне аб арганізацыі ў іх сьвінагадоўчых таварных фэрм, трэба скарыстаць гэтую ініцыятыву, практычна дапамагчы ім і кіраваць гэтай справай. Аднэй з чарговых практычных задач у сэнсе выкананьня вытворчага пляну па сьвінагадоўчых калгасных таварных фэрмах, зьяўляецца задача камплектаваньня сьвіного стада, асабліва матачнага стада. Камплектаваньне сьвінаматак павінна ісьці галоўным чынам за рахунак унутраных рэсурсаў калгасаў, як-та за рахунак вылучэньня новых сьвінагадоўчых калгасаў, з абагуленым сьвіным стадам, і арганізацыі новых фэрм, адбор і стопроцантнае захаваньне ўсіх сьвінаматак з парасятамі веснавога апаросу, куплі сьвінаматак веснавога апаросу, скарыстоўваючы для гэтага крэдыты на камплектаваньне сьвіного стада, перакідкі сьвінаматак з калгасаў, якія спэцыялізуюцца ў іншым напрамку (малочныя птушкаводныя і інш.), абмен з калгасьнікамі падсьвінкаў на сьвінаматкі.

Вось тыя галоўныя крыніцы камплектаваньня, якія поўнасьцю забясьпечваюць выкананьне вытворчай праграмы па камплектаваньні сьвінагадоўчых фэрм.

У тых раёнах і калгасах, дзе гэтай справе надалі адпаведную ўвагу, мы ўжо маем добрыя вынікі, калгасьнікі праяўляюць вялікую ініцыятыву і актыўнасьць у гэтай справе, напрыклад, у Брагінскім раёне нарада старшынь калгасаў вынесла пастанову аб тым, каб кожны калгасны двор даў па адной сьвінаматцы на фэрму і адну сьвіньню адкарміў для здачы (продажу) дзяржаве. Калгасы „Краіна Саветаў“ і „Дублін“— першымі прыступілі да выкананьня гэтай пастановы. Калгасьнікі калгасу „Дуб-





Гадавікі нямецкай пароды саўгасу Малая Сьляпянка (Менскі раён).

лін“ передалі ўжо 20 сьвінаматак на сваю фэрму, а калгасьнікі калгасу „Краіна саветаў“ паставілі на адкорм 15 падсьвінкаў. Калгас „Чырвоны Кастрычнік“ (Чырвонапольскі раён) у ліку 225 гаспадарак на агульным сходзе пастанавіў арганізаваць сьвінагадоўчую фэрму і для ўкамплектаваньня яе передаць з кожнага калгаснага двара па адной сьвінаматцы 5—6 месяцаў.

Гэтыя прыклады і мэтады работы зараз-жа павінны быць падхоплены ўсімі раёнамі, калгасамі і калгасьнікамі. Скарыстоўваючы ініцыятыву калгасных мас, шляхам практычнай дапамогі і кіраўніцтва з боку калгаснай сыстэмы, савецкіх органаў і партыйных арганізацый, мы зможам выканаць і перавыканаць плян камплектаваньня сьвінагадоўчых фэрм.

Партыйная і камсамольскія ячэйкі на мясцох павінны зараз-жа паставіць пытаньне перад кожным сваім членам аб практычным яго ўдзеле ў разьвіцьці буйнай сацыялістычнай сьвінагадоўлі ў калгасах. Партыйцы і камсамольцы павінны павесьці масавую работу сярод калгасьнікаў аб укамплектаваньні сьвінагадоўчых фэрм. Практычна дапамагаючы калгасьнікам з арганізацыйнага боку і ў залежнасьці ад таго, на колькі той ці іншы партыец і камсамолец сумее выканаць гэтую задачу, — трэба судзіць аб тым, як ён на справе выконвае дырэктыву партыі па разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Побач з правядзеньнем камплектаваньня сьвінога стада з паказаных вышэй крыніц, асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на злучную кампанію. Трэба скарыстаць усе магчымасьці для таго, каб увесь сьвіны матачны склад быў пакрыт вытворнікамі, каб увесь матачны склад у час вясеньняга апаросу даў поўны прыплод. Адначасова трэба зараз-жа разгарнуць ва ўсю шырыню пабудову новых і абсталяваньне старых сьвінарнікаў з тым, каб да пачатку масавага асеньняга апаросу і наступленьня асеньняй сырой пагоды і халадоў,—усе сьвінаматкі былі забясьпечаны цёплымі сьвінарнікамі.

Трэба неадкладна дабіцца ўвядзеньня сапраўднай зьдзельшчыны па кармленьню і догляду за сьвінямі, ліквідаваньне абязьлічкі ў сьвінагадоўлі. За кожным калгасьнікам або калгасьніцай замацаваць адпаведную колькасьць сьвіней. Увесьці сыстэму прэміяваньня за лепшы догляд за сьвінямі, узяўшы за прынцып: найбольшага атрыманьня парасят пры апаросах, найменшага адходу (падзежа) парасят пасьля апаросу і найбольшага павялічэньня вагі ў працэсе вырашчваньня і адкармліваньня.

Асноўную і галоўную ролю ў справе разьвіцьця сьвінагадоўлі павінна адыграць унядрэньне сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Красоўскі С.

# Племенная работа з буйнай рагатай жывёлай у калгасах

20-га чэрвеня г. г. у Маскве пры Наркамземе СССР закончыў свою работу Усесаюзны зьезд па племянной справе, які быў склікан па ініцыятыве Навукова-Дасьледчага Інстытуту Жывёлагадоўлі Усесеюзнай Акадэміі Сельска-гасп. Навук імя Леніна.

Адчыняючы зьезд член Калегіі НКЗ СССР тав. Цылько адзначыў што мы ў племяннной справе маем пакуль што на сёньнешні дзень даволі значны прарыў. Жывёлагадоўля зьяўлялася і зьяўляецца да гэтага часу ў нас амаль што самай адсталай з галін ня толькі сельскай гаспадаркі, але-ж і ўсёй народнай гаспадаркі наогул. Апошняя-жа вельмі настойліва ставіць перад намі задачу падняцьця жывёлагадоўлі да ўзроўня другіх вядучых галін гаспадаркі. А гэта ў сваю чаргу дыктуе жывёлагадоўлі нябывалыя да гэтага часу тэмпы яго разьвіцьця.

Падвышэньне продукцыйнасьці нашай жывёлы павінна пайсьці двумя паралельнымі шляхамі, шляхам палепшаньня кармовай базы і ўмоў утрыманьня жывёлы і шляхам правільна пастаўленай і плянава правадзімай племяннной работы. Гэтыя дзьве работы павінны ісьці побач адна з другой, дапаўняючы адна другую. Нашы саўгасы і калгасы сьцягваюць да сябе вялікія колькасьці жывёлы і тым самым дазваляюць разгарнуць там і паглыбленую племянную работу. Племянная справа набывае тым больш актуальнае значэньне, што падвышэньне прадукцыйнасьці жывёлы шляхам палепшаньня кармленьня можа ісьці да сурова вядомай мяжы, якая абумоўліваецца фізыялёгіяй жывёлы (памер і якасьць вымені, работа крывяносная сыстэмы і г. д.).

Далей падвышэньне прадукцыйнасьці павінна ўжо ісьці шляхам правільна пастаўленай племяннной работы.

Як-жа павінна гэта племработы разгортвацца ў нас ва ўмовах сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі?

Першая задача, якая стаіць перад намі — гэта выяўленьне ўсіх маючыхся ў нас племянных жывёл. Трэба выявіць усіх так званых рэкардыстак, гэта значыць усіх жывёл з выдаючайся для данай мясцовасьці прадукцыйнасьцю. Гэтаму дапамогуць тыя племянныя запісы, якія павінны весьціся ўсімі саўгасамі і калгасамі. Пакідаць гэтых рэкардыстак у карыстальных гаспадарках было-б ня зусім зразумелым. Калгас ня зможа скарыстаць усіх тых маўчымасьцяй, якія заложаны ў гэтых рэкардыстках. У лепшым выпадку калгас скарыстае тыя высокія ўдоі малака, якія-б давала гэта карова. Багатыя спадчынныя задаткі, якія нясе ў сябе рэкардыстка ў гэтай гаспадарцы ня сумелі-б замацаваць у патомстве і яны распыліліся-б, не заставіўшы пасьля сябе якія-небудзь значныя сьляды. Каб закрапіць гэтыя задаткі ў патомстве трэба, разгарнуць паглыбленую племянную работу з гэтымі рэкардысткамі, паставіўшы іх у адпаведныя спрыяючыя ўмовы.

Лепшыя з гэтых жывёл (элітная частка) павінны паступіць у асоба сэлекцыённыя гаспадаркі, дзе шляхам сэлекцыённай работы ў гэтых жывёл замацоўваюцца іх карысныя для нас якасьці (шматмалочнасьць, вялікі процант тлустасьці ў малаку, вялікая жывая вага і г. д.) у іх патомстве. Далей трэба атрыманае ад гэтых кароў патомста з замацованымі ў іх задаткамі якім-та чынам размножыць. Гэты абавязак накладаецца на асобыя племянныя гаспадаркі (рэпрадуктары). У гэтыя гаспадаркі ідуць праверанымя ўжо ў сэлекцыённых гаспадарках вытворнікі і галоўным чынам праз іх ідзе распаўсюджваньне племяннога матар'ялу. Размножаны ў племгасах племматар'ял ідзе ў калгасы ў карыстальныя статкі.

---

## ПЕРАБУДУЕМ І РАЗГАРНЁМ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЮ НА БАЗЕ САЎГАСАЎ І КАЛГАСАЎ

Гэты паток лепш за ўсё наладзіць зноўтакі праз правераных ужо бугаёў—вытворнікаў. На дапамогу вытворнікам для пашырэньня маштабу работы павінна прысьці штучнае абсемяненьне. Само сабой зразумела, што ўся работа па падбору жывёлы павінна пайсьці па лініі абраных для БССР паляпшаючых культурных парод. Аб тым, якія гэта пароды для БССР, мы ўжо ў свой час пісалі ў часопісі „Шляхі калектывізацыі“.

Малюнак атрымоўваецца досыць прыгожы і стройны. Як усялякі стройны і прадуманы плян, пры ўмове настойлівага і правільнага правядзеньня яго ў жыцьцё, ён павінен даць належныя вынікі.

Галоўнымі застрэльшчыкамі племянной работы павінны быць саўгасы, але-ж і калгасы не павінны адставаць ад апошніх, усямерна скарыстоўваючы ўсе маючыяся ў іх наконт гэтага магчымасьці. Як відаць, кожны калгас можа ўнясьці сваю лепту ў агульную работу—работу па палепшаньні нашай прадукцыйнай жывёлы. Праф. Ліскун у сваім дакладзе „Пароднае раёнаваньне буйнай рагатай жывёлы ў СССР“ заявіў, што мы хаця і арыентыруемся ў племрабоце на некаторыя культурныя замежныя пароды, але мы гэтыя пароды павінны перабудаваць, прыстасоўваючы іх к нашым прыродным і эканамічным умовам. Мы павінны стварыць сваіх савецкіх швіцаў, белагаловых каланістых і г. д. жывёл. У нас у БССР акрамя таго ёсьць яшчэ чырвона-беларуская парода, якую трэба ў выніку плянава праведзенай племработы паставіць у шэраг іншых культурных выдатнейшых замежных парод.

НКЗ БССР у сваёй пастанове ад 10-га мая 1931 года лічыць неабходным арганізаваць на тэрыторыі БССР 3 сэлекцыённых стада: адно са швіцкай пародай у гаспадарцы Горацкай Занальнай станцыі малочнай гаспадаркі, другое ў Самуэлева-Аннопале з чырвона-беларускай пародай і 3-е у Ельскім ці Нараўлянскім раёнах з каланісцкай белагаловай пародай. Адначасова з гэтым НКЗ БССР прапанаваў утварыць 20 племянных калгасных гаспадарак (са швіцкай пародай—7, чырвона-беларускай—7 і з каланісцка-белагаловай—6). Для племянных калгасаў НКЗ рэкамандуе калгасы з плошчай ня менш, як 700—1000 *га* і з колькасьцю галоў, як мінімум—300. Нам здаецца, што Белкалгасцэнту трэба ўзяць ударныя тэмпы ў правядзеньні племработы, каб тым самым забясьпечыць выкананьне тых задач, якія ў галіне жывёлагадоўлі ўскладзены на нас партыяй і саветамі.

**А. Сяргееў.**



Ударніца-даярка
калгасу „Расьсьвет-Пераможца“
Канаплёва Ганна.

# Колькі прыбаўляць вады альбо сухога матар'ялу пры сіласаваньні

Для таго, каб устанавіць колькі вады трэба прыбавіць да сіласуемага вельмі сухога матар'ялу, трэба ўзяць 1 кілёграм гэтага сіласуемага матар'ялу і паставіць яго высахнуць на-нач у печ, вытапленую ўдзень. Раніцаю гэтую высушаную масу (сухая рэч) трэба ўзважыць.

Колькасьць вады, якую трэба дадаць да 1 *кг.* сіласуемай масы будзе роўны: вазе пасьля сушкі, памножананай на 3, за вылікам вагі да сушкі.

Прыклад: няхай пасьля сушкі 1 *кг* (ці 1000 *гр.*) нашай сіласуемай масы вага яе раўнялася 600 *гр.* на кожны *кг* ці 1000 *гр* гэтай масы, такім выпадку трэба дадаць вады 0,8 *кг.*

Сапраўды пры гэтым замест 1 *кг* сіласуемага матар'ялу разам з дадаваемай да яго вадой будзе закладвацца ў сілос 1,8 *кг* масы, у якой будзе ўсяго 1,2 *кг* вады (0,8 *кг*) дадапай вады—0,4 *кг*, раней у ёй знаходзіўшайся)

### Прыбаўка сухіх рэчаў

Сухія рэчы звычайна дадаюцца ў выглядзе саламянай рэзкі ці мякіны.

Для таго, каб устанавіць, колькі сухіх рэчаў трэба дадаць на кожныя 1 *кг* сіласуемага вельмі вільготнага корму, трэба дакладна таксама высушыць у печы 1 *кг* гэтага корму. Колькасьць сухіх рэчаў, якую трэба дадаць на кожныя 1 *кг* гэтага корму вылічваецца так: вагу пасьля сушкі трэба памножыць на 3; гэту велічыню вылічыць з вагі да сушкі і атрыманае падзяліць на 2. Атрымаем колькасьць сухой рэчы, якую трэба прыбавіць на кожны кілёграм сіласуемай масы.

Прыклад: няхай сіласуемая маса вагаю ў 1 *кг* (ці 1000 грам) пасьля сушкі будзе важыць 292 грамы. На кожны *кг* гэтай сіласуемай масы трэба дадаць 62 *кг* сухіх рэчаў.

Такім чынам аказваецца, што на 1 *кг* сіласуемай масы трэба дадаць 62 *гр* ці на 1 тону 62 *кг* сухіх рэчаў.

Сапраўды пры гэтым першапачатковая вага закладваемай у сілос масы замест 1 *кг* ці 1000 грам будзе роўна 1062 *гр*, на якія будзе прыходзіцца 354 *гр* сухіх рэчаў (292 *гр* атрыманага пасьля сушкі+62 *гр* дабаўленага) на ваду-ж прыдзецца астатняе, г. зн. 708 *гр.*

Вызначаючы дабаўку, вады мы з той колькасьці масы, у якую павінен ператварыцца пасьля дабаўкі да яго вады ўзяты намі 1 *кг* сіласуемага матар'ялу, вылічаем гэты першапачатковы 1 кілёграм і атрымліваем тую колькасьць вады, якую да яго трэба дадаць для атрыманьня нармальнай вільготнасьці.

Пры вызначэньні прыбаўкі сухіх рэчаў мы гэты 1 *кг*, ператвораны шляхам памнажэньня на 3 у матар'ял з нармальнай вільготнасьцю, вылічаем з першапачатковай яго вагі; атрымліваем тую лішнюю ваду, якая заключалася ў гэтым 1 *кг* супроць нармальнага знаходжаньня вады. Каб вызначыць колькі на гэту лішнюю ваду трэба дадаць сухіх рэчаў, мы гэтую лішнюю ваду падзяляем на 2, так як вады ў матар'яле нармальнай вільготнасьці павінна быць у два разы больш, чым сухіх рэчаў.

Клеменчыч

**Толькі ўдарнымі тэмпамі ў працы мы зможам сваячасова выканаць пляны ўборкі і асеньняй сяўбы ў калгасах**

# Перапіска з селькорамі

**М. Яроменку** *(Полацкі раён)*. „Нашы вынікі сяўбы" ня пойдзе. Допіс ваш спазьніўся.

Допіс „Пашыраем плошчу пад лён" таксама ня пойдзе. Вы толькі напісалі, што калгасамі складзены пляны па пашырэньню плошчы пад лён, а як гэтыя пляны выконваюцца, невядома.

Астатні матар'ял будзе зьмешчаны.

Пішэце, як ідзе ўборка ўраджаю і ў сувязі з гэтым калгасны прыліў.

**М. Шкулеўскаму** *(Глускі раён)*. Допіс „Два гады па шляху. Леніна" ня пойдзе. Вы мала напісалі аб тым, як зараз працуе калгас і якія ён мае дасягненьні.

Пішэце, як у вашым калгасе ўнядраецца зьдзельшчына і як пастаўлен улік працы.

**М. Бялевічу** *(Рагачоўскі раён)*. Ваш артыкул „Касьцянеўская камуна" ня пойдзе. Многа агульных разважаньняў і вельмі мала фактаў.

Пішэце як гэта камуна праводзіць уборку ўраджаю. (Пішэце больш разборчыва).

**В. Строліну** *(Чырвонапольскі раён)*. Ваш допіс „Безгаспадарчасьць" ня будзе зьмешчаны. Дробязны факт. Напішэце аб гэтым у раённую або насьценную газэту.

Пішэце, як ідзе ўборка сенажаці ў вашым калгасе.

**М. Я. Янчынку** *(Чэрыкаўскі раён)*. Ваш допіс „Брыгада будаўнікоў" ня пойдзе. Што канкрэтна зроблена брыгадай будаўнікоў вы не ўказалі, а толькі напісалі, што брыгада што-та будуе. Пішэце якія ёсьць посьпехі ў спэцыялізацыі вашага калгасу.

---

# Набудзем калектыўную селькораўскую аблігацыю 3 рашаючага імя „Шляхоў Калектывізацыі".

Селькоры газэты „Калгасьнік Беларусі" зараз праводзіць шырокую кампанію па збору сродкаў на калектыўную селькораўскую аблігацыю „трэцяга рашаючага" імя газэты „Калгасьнік Беларусі". Гэта надзвычайна каштоўнае мерапрыемства павінна быць аднадушна падхоплена рабселькорамі ўсіх газэт і часопісаў БССР.

Селькоры „Шляхоў Калектывізацыі"! Вы павінны зараз-жа падхапіць ініцыятыву селькораў „Калгатніка Беларусі" і распачаць шырокую кампанію па сбору сродкаў на калектыўную селькораўскую аблігацыю „трэцяга рашаючага" імя „Шляхоў Калектывізацыі".

Абгаварыце гэта пытаньне на шырокіх сходах калгасьнікаў і аднаасобнікаў; разам з партыйнай ячэйкай і праўленьнем калгасу арганізуйце суботнікі ў карысьць калектыўнай аблігацыі. Выклікайце на сацспаборніцтва па лепшаму збору сродкаў на калектыўную аблігацыю і распаўсюджваньне пазыкі наогул селькораў і насьценную газэту суседняга Вам калгасу. У першую чаргу падпісвайцеся і ўносьце сродкі самі.

Увесь ход гэтай работы шырока асьвятляйце на старонках часопісу „Шляхі Калектывізацыі". Сабраныя сродкі шліце нам — па адрасу: — гор. Менск, Савецкая, 68, рэдакцыя „Шляхоў Калектывізацыі".

---

Адказныя рэдактары: С. Міцькоў. Н. Міхайлаў.

ЦАНА 15 кап.

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

1317

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

1964 г.

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі“

## Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць

ЧАСОПІС **„ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТА-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год—24 нумары. . . | 3 руб. | |
| „ 6 мес.—12 „ . . | 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ — 6 „ . . | — — | 75 „ |
| „ 1 „ — 2 „ . . | — — | 25 „ |

Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу

Адрас рэдакцыі часопісу:
*г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.*

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1523. Галоўлітбел № 1753.